# Падзеі • Здарэнні • Факты • Каментары • Весткі

## СВЕТ

### «ВЯЛІКАЯ КААЛІЦЫЯ» Ў ФРГ

Камісіі ЦДУ/ЦСУ і СПД дагаварыліся, што створаць у Бон вялікую ўрадавую кааліцыю. Прадбачваецца, што канцлерам астанецца Кізінгер (ЦДУ), а яго наместнікам — Брандт (СПД).

### НОВЫ КРОК ЭСКАЛАЦЫІ

Пентагон пастанавіў пашырыць эскалацыю вайны ў В'етнаме. Зараз амерыканскія ваенныя караблі маюць права абстрэльваць тэрыторыю Дэмакратычнай Рэспублікі В'етнама, калі капітан карабля вырашыць, што «працуйнік рыхтуецца да атакі на карабель». Такое паняцце вельмі шырокае і практычна ўпаўнамочвае камандзіраў амерыканскіх караблёў адкрываць агонь без ніякай прычыны.

### МАРСКАЯ ЭЛЕКТРАСТАНЦЫЯ

Першая ў свеце **марская электрастанцыя** пачала працу ў Францыі. Выкарыстоўвае яна энергію адплываў і прыплываў мора. Гэтым самым французская тэхніка дабілася новага поспеху. Дакладна сто год таму — таксама ў Францыі — паўстала першая ў свеце гідраэлектрастанцыя.

Марскую электрастанцыю пабудавана ў тым месцы, дзе адна з рэк уплывае ў мора, або наадварот, у часе прыплываў мора ўліваецца ў раку. Плаціна, якую там пабудавана, з'яўляецца адначасова мастом.

Гідраэлектрастанцыя абяспечана 24 турбінамі новай нябывалай канструкцыі. Прадукуе яна толькі электрычнай энергіі, што хапае яе на абеспячэнне ў ток мільённага прамысловага горада. Пабудова электрастанцыі працягвалася няпоўныя 6 год.

### КАТАСТРОФА САМАЛЁТА

У мінулым тыдні ля Браціславы (Чэхаславакія) разбіўся пасажырскі самалёт балгарскай авіяцыі. У катастрофе загінула 76 пасажыраў і 8 членаў экіпажа. Прадбачваецца, што прычынай катастрофы было тое, што самалёт ляцеў занізка і ўдарыўся аб лясісты пакат Малых Карпат.

Сярод загінуўшых у катастрофе былі члены дэлегацый камуністычных партый на IX з'езд Камуністычнай партыі Балгарыі з Чыле, Аргенціны, Бразіліі, Японіі і Гандурасу.

### КОЛЬКІ КАШТУЕ АМЕРЫКАНСКАЯ ДАПАМОГА?

Некалькі эканамістаў падлічылі, што адзін дзень дзейнасці ў Алжыры амерыканскага спецыяліста па справах нафты, які знаходзіцца тут у ролі эксперта, выносіць аж... 400 долараў. Гэтую суму складае празмерная зарплата, якая раўняецца 25 сярэдним месячным зарплатам алжырскіх служачых, кошт пералёту самалётам Нью-Йорк—Алжыр, кошт утрымання рэзідэнцыі, якую выбраў сабе эксперт ЗША, службовага самахода з шафёрам і дадатковую аплату за «страты, якія мае прадпрыемства па прычыне непрысутнасці спецыяліста».

А. К.

## БССР

### ІДЭАЛОГІЯ

Адбылася нарада-семінар ідэалагічных работнікаў БССР, у якой, між іншым, прынялі ўдзел дзеячы беларускай літаратуры і мастацтва. Нараду адкрыў першы сакратар ЦК Кампартыі Беларусі, П. Машэраў. Даклад меў сакратар ЦК КПБ С. Пілатовіч. Прысутнічалі сакратары ЦК — С. Прытыцкі і Ф. Сурганаў.

### АКАДЭМІЯ

У Мінскім Акруговым Доме афіцэраў адбылася акадэмія, прысвечаная Дню ракетных войскаў і артылерыі Савецкай Арміі. Акадэмію адкрыў Г. Арыка, начальнік штаба Беларускай Ваеннай Акругі.

### УЗНАГАРОДЫ

Беларускі дзяржаўны драматычны тэатр імя Якуба Коласа і група яго артыстаў узнагароджаны Ганаровай граматай Вярхоўнага Савета Беларусі. Артысткам Марыне Маркоўскай і Галіне Маркінай прысвоены ганаровыя званні Заслужанага артыста Беларускай ССР.

### ФАНТАН

На нафтавых палях беларускага Палесся ўдарыў яшчэ адзін фантан нафты. Значэнне Беларусі расце.

### ФОРУМ

Адбылася першая беларуская навукова-метадычная канферэнцыя па фізіцы.

### СХОД

Адбыўся сход актыву Магілёўскай абласной партыйнай арганізацыі. Сход быў прысвечаны абмеркаванню спраў звязаных з патрэбай узмацнення барацьбы са злачынствам і бандытызмам.

### ЗНАЯМЛЕННЕ

Для знаямлення вучняў з новымі выданнямі беларускай літаратуры, Міністэрства асветы БССР абавязала школы падпісваць літаратурныя часопісы «Полымя», «Маладосць», «Нёман».

### ДАНКА

У Маладзечне існуе клуб «Данка», які карыстаецца вялікай папулярнасцю з увагі на цікавыя формы сваёй дзейнасці.

### ЦЫРК

Аж паўтара месяца пабываў у Мінску польскі цырк. Дырэктар цырка, Ольгерд Каспарэк, апублікаваў падзяку ўраду Беларусі за гасцінны прыём.

### КАВЯРНЯ

У саўгасе «Воранава» на Віцебшчыне адкрыта кавярню. У ёй найноўшае абсталяванне.

### СТАРОНКА

Беларуская маладзёжная газета «Чырвоная змена» час ад часу прысвячае цэлую старонку для публікацыі матэрыялаў аб сямейным жыцці, аб выхоўванні дзяцей, аб адносінах мужчыны да жанчыны. Друкуецца рубрыка кулінарных парад, асабліва з беларускай кухні.

(СЯ)

## ПОЛЬШЧА

### ВУЧОНЫЯ НА ВАВЕЛІ

У днях 24—25.XI.1966 г. у гістарычнай сядзібе польскіх каралёў на Вавелі адбылася навуковая сесія прысвечаная 1000-годдзю Польскай Дзяржавы. У абрадах прыняў між іншым удзел прэм'ер Юзэф Цыранкевіч. Вёў абрады прафесар Януш Грашкоўскі прэзас Польскай Акадэміі навук.

### ДАСЯГНЕННІ ПОЛЬСКІХ ШАХЦЁРАЎ

З нагоды Дня гарняка — традыцыйнай «Барбуркі» ў міністэрстве горнай прамысловасці і энергетыкі ў Катовіцах адбылася прэс-канферэнцыя, у час якой паінфармавана прысутных аб актуальных праблемах польскіх шахтаў. Абрады вёў віцэ-міністр Эрык Паромбка. Прысутныя даведаліся, што дабыццё ў гэтым годзе асягае каля 121,8 мільёнаў тон каменнага вугля і каля 24,5 мільёнаў тон бурага вугля, нафты 400 тыс. тон і свяцільнага газу 1 270 мільёнаў кубічных метраў. Павысілася таксама ступень бяспекі працы ў шахтах.

### ПРАТЭСТ

У сувязі з інфармацыямі аб спыненні ў Фленсбургу (Федэратыўная Германія) следства супраць Гейнзана Рэйнефарта, Галоўная камісія даследвання гітлераўскіх злачынстваў у Польшчы заявіла, што паступак такі гвалціць асноўныя прынцыпы справядлівасці, сведчыць аб зняважлівых адносінах органаў справядлівасці ФРГ да паўсюднага патрабавання пакарання гітлераўскіх злачынцаў, абазначае абарону людабойцаў перад заслужаным пакараннем. Галоўная камісія рашуча пратэстуе супраць такога паступку заходнегерманскай пракуратуры. Галоўная камісія звярнулася да заходнегерманскай Цэнтралі даследвання гітлераўскіх злачынстваў, а таксама да пракуратуры ў Фленсбургу з патрабаваннем выяснення падстаў такога рашэння.

Польскі друк інфармуе, што злачынствы Рэйнефарта мелі месца перад усім на тэрыторыі Польшчы. Узначальваў ён між іншым брыгаду СС у час расправы з Варшаўскім паўстаннем.

### З'ЕЗД МЕТАЛІСТАЎ

У днях 25—26.XI. адбываўся ў Варшаве з'езд металістаў. Падсумавана на ім дасягненні прафсаюза, а таксама прынята праграму дзейнасці на бліжэйшую будучыню і ўнесена змены ў статут прафсаюза. У з'ездзе прыняў удзел Старшыня Цэнтральнай рады прафсаюзаў Ігнацы Лёга-Савінскі.

### КАНТРАКТАЦЫЯ ПАШЫРАЕЦЦА

У гэтым годзе закантрактавана 3,1 мільёнаў гектараў сельскагаспадарчых пасеваў, калі ў мінулым годзе закантрактавана іх толькі 2,6 мільёнаў гектараў. На наступныя гады прадбачваецца перад усім пашырэнне кантрактацыі збожжавых раслін, якіх плошча ў 1970 годзе асягне 2,3 мільёнаў гектараў.

Ул. П.

## ВАЯВОДСТВА

### ПЛЕНУМ ГП БГКТ

27 лістапада адбылося ў Беластоку чарговае пленарнае пасяджэнне Галоўнага праўлення БГКТ. Удзельнікі пленума займаліся ацэнкай нашага тыднёвіка «Ніва» і абмяркоўкай форм і метадаў дзейнасці Таварыства на асенне-зімовы перыяд. Справаздача ў наступным нумары.

### МІТЫНГ САЛІДАРНАСЦІ

Па прапанове Рады Саюза польскіх студэнтаў Беластоцкай Медыцынскай акадэміі 27 лістапада быў скліканы ў Беластоку шматлюдны мітынг студэнтаў, вучняў сярэдніх школ і прадстаўнікоў іншых колаў грамадскасці. Удзельнікі мітынгу шчыра выявілі сваё глыбокае братэрства і салідарнасць з гераічнай вызваленчай барацьбой в'етнамскага народа. На мітынг прыехаў першы сакратар пасольства ДРВ у Польшчы, былі таксама прафесары Беластоцкай Медыцынскай акадэміі з рэктарам др А. Камчынскім і прадстаўнікі партыйных устаноў і адміністрацыйных улад. З прамовамі між іншым выступілі прадстаўнік в'етнамскага пасольства ў Польшчы і рэктар праф. др Людвік Камчынскі.

### ПАРТЫЙНЫЯ КАНФЕРЭНЦЫІ

У Бельску, Гайнаўцы, Сувалках і Замброве 27.XI. г.г. адбываліся павятовыя справаздачна-выбарныя партыйныя канферэнцыі. У замброўскай канферэнцыі прыняў удзел І сакратар ВК ПАРП тав. А. Лашэвіч.

У **Гайнаўцы** ў канферэнцыі прынялі ўдзел 160 дэлегатаў, якія прадстаўлялі звыш трохтысячную павятовую партыйную арганізацыю. Удзельнічаў у канферэнцыі віцэ-міністр лясніцтва і драўлянай прамысловасці Ян Грудзінскі, які адначасова з'яўляецца членам Цэнтральнай Рэвізійнай Камісіі ЦК ПАРП. Прадстаўніком ваяводскіх партыйных улад быў сакратар Ст. Кудла. І сакратаром ПК ПАРП у Гайнаўцы зноў выбралі Міхаіла Няздвезя.

У **Бельску** на канферэнцыю прыехала 155 дэлегатаў. Была гэта ў гісторыі партыйнай арганізацыі Бельскага павета ўжо 12-ая павятовая канферэнцыя. Прыняў у ёй удзел сакратар ВК ПАРП А. Младзяноўскі. У спрэчках выступіла 22 таварышы. І сакратаром зноў выбралі Уладзіміра Міхалюка.

### ВЯСКОВЫ СПОРТ

У Беластоку адбылося ўрачыстае пленарнае пасяджэнне Ваяводскай рады Людовых спартыўных гурткоў. Старшыня рады Казімір Купскі ў час свайго выступлення пазнаёміў прысутных з дваццацігадовымі дасягненнямі ў дзейнасці вясковай спартыўнай арганізацыі. Між іншым заявіў ён, што ў 1950 г. Людовыя спартыўныя гурткі налічвалі 2000 членаў, а цяпер аб'ядноўваюць яны ўжо 32-хтысячную армію вясковых спартсменаў.

(В.Р.)

# Тэлевізія • тэлевізія • тэлевізія • тэлевізія • тэлевізія

NIEDZIELA 4.XII.

8.00 Politechnika TV. Geometria wykreślna—„Powierzchnie" cz. II; 8.35 Politechnika TV. Chemia — „Pochodne węglowodorów: chlorowcopochodne, alkohole, kwasy i inne związki"; 9.05 37 lekcja jęz. ros.; 9,25 Politechnika TV. Matematyka — „Pochodne funkcji złożonych, odwrotnych i uwikłanych" cz. I; 10.00 „Album melodii" — program rozrywkowy; 11.10 Kino Przygoda: „O czym milczała Tajga" — film fab. radz.; 12.30 PKF; 12.40 Wiad. dz. TV; 12.50 „Bawcie się z nami" — rewia górniczych zespołów amatorskich; 13.20 „Jedziemy na łów"; 13.35 Finał Olimpiady Rolniczej; 14.30 Teatrzyk dla Przedszkolaków: „Strach ma wielkie oczy" A. Chodorowskiej; 15.10 „Ludzie i zdarzenia"; 15.25 „Teleplastikon" (program literacko-rozrywkowy); 16.00 „Czarownice" — film USA; 16.35 Teatr Niedzielny: „Spotkanie w pociągu" W. Hildeskeimera; 17.35 — film; 18.00 Słownik wyrazów obcych; 18.20 „Jazda figurowa na lodzie"; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dz. TV; 20.00 „Diana i inne" — piosenki Paula Anki. Wykonawcy: I. Cembrzyńska, K. Jędrusik, M. Zawadzka, M. Damięcki, W. Gołas, W. Pokora, W. Młynarski. Program prowadzi L. Kydryński; 20.45 „Genowefa" — film fab. ang.; 22.15 Niedziela Sportowa.

PONIEDZIAŁEK 5.XII.

16.55 Wiad. dz. TV; 17.00 Dla dzieci: „Zaczarowany ołówek" — film; 17.10 Dla młodych widzów: „Rozkosze łamania głowy"; 17.30 „Masz wolny czas" („7 milionów młodych"); 17.45 „Król węgiel"; 18.10 „Spacerkiem po kinach"; 18.40 „Eureka"; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dz. TV; 20.00 „Na Morawach" — film; 20.15 Teatr TV: „Skowronek" J. Anouilh'a; 21.25 „Na półkach księgarskich"; 21.35 „Chorzele" — rep. filmowy; 21.55 Dz. TV.

WTOREK 6.XII.

10.55 Dla szkół: (kl. X) Język polski — Stanisław Wyspiański „Noc Listopadowa"; 11.25 „Świat się śmieje" — film fab. radz.; 16.00 Politechnika TV. Matematyka: „Pochodne funkcji złożonych, odwrotnych i uwikłanych" cz. II; 16.30 Politechnika TV. Matematyka: „Przyrost funkcji i różniczka"; 17.00 Wiad. dz. TV; 17.05 Dla młodych widzów: „Zrób to sam"; 17.20 Informator handlowy; 17.30 „Sprawy jednego kółka"; 17.50 „Afryka" — teleturniej; 18.20 „Na morskich szlakach"; 18.45 „Lira" — program muzyczno - literacki; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dz. TV; 20.00 TV Kurier Warszawski; 20.15 „Świat się śmieje" — film fab. radz.; 21.45 „Skrzyżowanie dróg"; 22.05 Dz. TV; 22.25 Politechnika TV.

ŚRODA, 7.XII.

9.55 Dla szkół: (kl. VII) Wychowanie obywatelskie — „Szlachetne zdrowie"; 10.25 „Samobójczy skok" — film USA; 11.55 Dla szkół: (kl. VIII) Fizyka — „Elektroliza"; 15.45 38 lekcja jęz. ros.; 16.10 „Przypominamy, radzimy"; 16.30 Dla dzieci: „W gospodzie u chemika" — opowiadania o zwierzętach; 16.50 Wiad. dz. TV; 17.00 Sprawozdanie sportowe — w przerwie PKF; 18.55 „Pod znakiem jakości"; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dz. TV; 20.00 „Metamorfozy" — film CSRS; 20.15 „Samobójczy skok" — film USA; 21.05 „Światowid"; 21.35 „Tokio, taniec i piosenka" — film rozrywkowy; 23.05 Dz. TV.

CZWARTEK, 8.XII.

9.55 Dla szkół: (kl. VIII) Historia — „Drogi do wolności"; 10.55 Dla szkół: (kl. V) Język polski — „Chłopcy z placu broni" F. Molnara (Kraków); 15.55 37 lekcja jęz. franc.; 16.20 Kurs Rolniczy: „Mechanizacja produkcji ziemniaków"; 16.55 Wiad. dz. TV; 17.00 Dla dzieci: Kino Ptyś; 17.15 Dla młodych widzów: „Sporty zimowe"; 17.40 „Tramp"; 18.05 „Kwadrans zagadek"; 18.20 „Między polem a jadalnią"; 18.50 „Miniatury baletowe"; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dz. TV; 20.00 Film; 20.15 Teatr Kobra: J. Janczur „Zabito człowieka"; 21.20 „Refleksje"; 21.50 Dz. TV; 22.10 Koncert Orkiestry Kameralnej im. F. Bendy (Praga); 22.50 37 lekcja jęz. franc.

PIĄTEK, 9.XII.

9.55 Dla szkół: (kl. VII) Zajęcia techniczne — „Elektryczne świeczki na choinkę"; 10.55 Dla szkół: (kl. lic.) „Panorama" — wiadomości o Polsce i świecie; 12.00 Dla szkół: (kl. IV) „Życzenia dla górników"; 16.25 38 lekcja jęz. ang.; 16.55 Wiad. dz. TV; 17.00 Dla dzieci: „Miś z okienka"; 17.15 Dla dzieci: „Bella i Sebastian" — film; 17.40 Informator turystyczny; 17.50 Wszechnica TV: „Rak" („Perspektywy"); 18.20 „Wielokropek"; 18.40 „Poligon"; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dz. TV; 20.00 TV Kurier Mazowiecki; 20.15 Film fab.; 21.45 „10 minut recenzji"; 21.55 Dz. TV; 22.10 Magazyn Medyczny; 22.40 Program na jutro; 22.45 38 lekcja jęz. ang.

SOBOTA, 10.XII

9.55 Dla szkół: (kl. VI) Biologia — „Las"; 10.55 Dla szkół: (kl. V) Geografia — „Ukształtowanie pionowe i poziome Europy"; 11.25 „Dumni" — film fab. USA; 16.10 „Wychowanie fizyczne naszych dzieci"; 16.20 Dla nauczycieli: „Trudne decyzje czyli o wyborze zawodu" („Psycholog radzi"); 16.40 Program tygodnia; 16.55 Wiad. dz. TV; 17.05 Dla młodych widzów: „Konkurs 5 milionów"; 18.10 „Po szóstej" — tv Klub Młodzieżowy; 18.50 „Spotkania z przyrodą"; 19.20 Dobranoc; 19.30 Monitor; 20.00 „Na ratunek tonącym" — film („Belphegor czyli upiór Luwru"); 20.35 „Warszawa — Moskwa", program rozrywkowy; 21.35 Dz. TV; 21.50 Wiadomości sportowe; 22.00 „Dumni" — film fab. USA.

БЕЛАВЕЖА

ОРГАН ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАГА АБ'ЯДНАННЯ ПРЫ ГП БГКТ

№ 96

# СПАДА-РОЖНІКІ

СЫМОН РАМАНЧУК

Знаёмыя ў Варшаве затрымалі мяне і я, зусім звычайна, не паспеў на кур'ерскі цягнік Берлін—Масква. Я ехаў у Мінск і да Брэста прышлося ехаць пасяляжаму...

Вось ён, кур'ерскі. Прыгожы, чысты... Маё купэ пустое, хаця ля акна вісіць чыесьці паліто. Стаўлю чамадан на паліцу і чую за сабою голас:

— Sprechen sie Deutsch?[1])

— Ich sprechen schon etwas Deutsch.[2])

— адказваю і паварочваюся.

У дзвярах стаіць высокі, шчуплы і прыгожы чалавек. Ён у шэрым, дарагім касцюме; галава яго ў сівых буйных валасах. Здагадваюся, што гэта яго паліто вісіць ля акна, і гавару яму:

— Bitte, sitzen in der „meine Hause". Der Zug setzt sich in Bewegung...[3])

— Danke. Ich auch zu der „meine Hause"...[4]) — адказвае ён і прывятліва ўсміхаецца. Ад гэтай прывятлівасці робіцца мне непрыемна. Ён немец, гэта ясна, а гэта мая першая сустрэча з немцам пасля вайны. Дзіўна, у наш дваццаты век падарожжаў, толькі цяпер першая сустрэча з жывым, у штацкім адзенні, немцам. Куды ён едзе? Пэўна ў Маскву, або ў Мінск.

Цягнік імчыць, гудзіць — мы ўсё далей і далей ад граніцы. За акном вецер і снег, а ў купэ цёпліня. Радыё спявае маю любімую песню: «Дымилась роща под горою, а вместе с ней пылал закат. Нас оставалось только трое из восемнадцати ребят...»

Я маўчу, а і спадарожнік мой заціх. Ён, мабыць, разумее па-руску і ён ведае, аб чым гэта песня. Я ведаю — яму, гэтаму высокаму і статнаму немцу, таксама няёмка. І ён пачынае гаварыць. Зразумела аб пагодзе. Так заўсёды завязваюцца самыя гарачыя дыскусіі паміж незнаёмымі, гэтак гаворыць тады, калі звычайна няма аб чым гаварыць. Я толькі потым звяртаю ўвагу на сэнс яго слоў. Яны звычайныя, але яны балючыя, горкія.

— Es schneit.[5])

— Ja, der Schnee...[6])

— Der Rusisch Schnee...[7])

— Russisch? — пытаю са здзіўленнем і тут жа змаўкаю. Недарэчлівае пытанне. Мы ж даўно ў Савецкім Саюзе. Навокал беларускія лясы, палі. І снег. Для яго, немца, усё, што на ўсходзе, за Польшчай — Расія. Я маўчу, бо аб чым гаварыць? Няўжо пра снег, які, мабыць, вельмі добра знаёмы гэтаму лавеку?

Ненармальнасць сітуацыі адчувае кожны з нас, але куды дзенешся?

На працягу некалькі гадзін мы павінны быць разам, павінны разам сядзець, глядзець на сябе, гаварыць...

Немец адкрывае чамадан, вымае віктуалы, заказвае ў праваднiцы чай і зноў звяртаецца да мяне з усмешкай:

— Bitte zu Tisch.[8])

— O, danke, Ich zu Bette..[9])

— Bitte!

Не выкруціцца мне з гэтага становішча, гэта факт. Я зусім не ведаю як мне быць і як вясці сябе. Нейк машынальна адкрываю і я свой чамадан... Пачынаецца вячэра...

Ён дастаў віно... Няўжо мне піць з ім? Ён сімпатычны і мілы, гэта праўда, але... Ён налівае, віно шуміць...

— Nein... Ich... Nein...[10]) — чую, як вырываецца мой голас. Ён глядзіць на мяне доўга, а потым, апусціўшы вочы, ціха кажа:

— Das versteht sich von selbst...[11]) — А я ўсё ж такі вып'ю — гаварыць ён нечакана па-руску. — І пойдзем спаць?..

— Пойдзем, — як рэха паўтараю я.

Праваднiца забірае некранугы чай, здзіўлена аглядаючы нас. Немец моўчкі ўкладвае свой чамадан, а я іду мыцца. Ідзе мыцца і немец. Калі ён вяртаецца, я ўжо пад пушыстай коўдрай. Спаць, спаць!..

Немец раздзяваецца, знімае кашулю... На грудзях — вялікі страшэнны шрам. Я закрываю вочы і ён выразна спяшаецца легчы.

— Вы гэта... на вайне? — пытаю я, бо ад маўчання можна адурэць. У галаве стукае, гучыць, у горле — нейкая горка-кіслая мляўкасць...

Ён адказвае па-руску.

— Пад Сталінградам. Збілі мяне, я быў лётчыкам.

— І вы бамбілі? — зусім па-дзіцячаму пытаю я.

— А вы, мабыць, палялелі б бамбіць свае склады, а мо бомбы заграблі б у пясок?.. Што мне было рабіць? Ну, што?! Скажыце!.. Гледзіце цэлы вечар з-пад ілба, але я прэтэнзіі не маю, і я інакш не паводзіў бы сябе... Каб вы ведалі, колькі я перажыў і што я адчуваў!! Ніякі палон не салодкі, савецкі таксама. Прыуралле і тайга — не курорт...

— А вы чаго спадзяваліся? — спытаў я.

— Сардэчнай сустрэчы з хлебам і соллю, зоркай з кветак: «міласці просім!»?.. Вы не прышлі як госць...

— Я хачу жыць, — перарваў ён.

— Вы ж жывяцё, маеце тое, што хацелі. Выкідалі бомбы, глядзелі, як гараць гарады, але вас ніхто не забіў, вы жывяцё. І, здаецца, добра жывяцё. І напэўна ў Заходняй Германіі!..

— Ва Усходняй.

— Не ўдалося ўцячы, значыць.

— Я не ўцякаў.

— Дзіўна.

— Вы малады, прабачце, і многага вы яшчэ проста не разумееце.

— Не, я ведаю многа. І вас, немцаў, ведаю. З вайны.

— Аднак многае трэба забыць, гэта адзіны выхад.

— Гэта ваш прынцып?

— Так. І ваш таксама, інакш жыць нельга. Адказваць жа павінны ўсе ў кога сумленне нячыстае, перш за ўсё кіраўнікі...

— Але вы іх не караеце!

— Караем.

— У той Германіі...

— У той Германіі другія правы. Толькі не думайце, што ўсе немцы дрэнь, няма нічога горшага...

— Калі вы добры — не гаварыце, што ўсе такія ж. А я вам не веру, хоць вы і інжынер, хоць вы і нібы наш.

— Ваш, — усміхнуўся немец. — Не, я свой, нямецкі. Вы, вось, польскі, той рускі, трэці чэх. Не гэта галоўнае, чалавечнасць галоўная. Часта да яе даходзяць позна, і валасы сівеюць і твар у маршчынах...

— Ляпей позна...

— О, так, гэта праўда, — згадзіўся ён. — Колькі ж вам тады год было?..

— А ці гэта можна забыць?.. Я нарадзіўся каля Белавежы. Лес кругом велічэзны, такога вы і не бачылі нідзе, апрача Сібіры. Наша пушча — гэта еўрапейская тайга. Але мы вам і там, у пушчы, перашкаджалі. Вы спалілі нашы дамы, а нас па белу свету разагналі... Аднойчы, помню, мама пашыла мне вялікую белую торбу... І я з торбай пайшоў ад хаты да хаты на чужой далёкай вёсцы. Прасіў хлеба, круп, грошай — што хто дасць... Мне было тады год шэсць. Пяць год!.. Вам Сібір курортам не паказалася, а нам зямля родная горш чужой стала!.. Мы галадалі, а вашы дзеці спалі ў цёплых дамах, пад мяккімі пярынкамі...

— Што ж яны, дзеці, вінаваты? — спытаў ён.

— Дарослых віна, гэта ясна. А пра дзяцей я таму, што і дзяцей вашых я бачыў. Як яны былі адзеты і як яны смяяліся!.. У суседнім горадзе быў вялікі хімічны завод. Дырэктар яго, тоўсты немец, сядзе, бывала, у каламажку на двух колах, пасадзіць побач сваіх дзяўчатак, возьме тры ці чатыры сабакі, велічэзныя як цяляты, і — на шпацыр... Помню, быў Валікдзень. Мы качалі крашаныя яйкі і не бачылі, як пад'ехаў той тоўсты пан. Сабакі пайшлі на нас... Вялікія звяры — бэстыі і жменька дзяцей... Уяўляеце, што было?!.. Немец забаўляўся, дзяўчаткі - лялькі, яго дочкі, рагаталі... Голасна і ўцешліва. А нас рвалі сабакі...

— Гэта страшна, прашу вас, не трэба болей!..

— Так, гэта страшна, сапраўды, але за што ўсё гэта, скажыце! Вы ж немец, вы прымалі ўдзел у вайне!

— Я быў салдатам.

— Але вы не пратэставалі!

— Пратэст... Які вы дзіўны!

— Гэта я здзіўляцца павінен. Вас збілі пад Сталінградам, а каб не збілі, вы паляцелі б на Маскву, Ленінград мо' наваг у Афрыку.

— Не ведаю...

— Добры вы, як кожны немец. І як кожны застаўшыся жыць аплываеце цяпер у сала, нажываеце грошы...

— І будуем фабрыкі, гарады, новыя школы...

— Каму?

— Сабе, зразумела. Вось, я еду ў Ленінград, на завод, на практыку, еду пераймаць вопыт. Я — інжынер-электрафізік. Мяне там чакаюць і чакаюць на нашым заводзе ў Дрэздане. І мне зусім нялёгка туды ехаць, вы паверце...

— Дадумваюся. І ім, там, у Ленінградзе не будзе лёгка. Блакаду забыць няўжо ж можна?..

Ёсць яшчэ і другая праўда, якой вы не ведаеце... Была ў мяне сям'я. Жонка і маленькая дачурка, Лізі. Аднойчы ноччу яны заснулі назаўсёды — англійская бомба разнясла ўсё ў пыл. Іх, дом, бомбаўбежышча. Не памаглі тоўстыя бетонныя сцены, нават іх, як мне потым расказвалі, не засталося і следу... Быў пыл, дым і гук страшэнны. Гэта быў канец гітлераўскага свету, гэтак уміраў Дрэздан... Яны жылі яшчэ, калі я папаў у палон. Аднойчы яны прысніліся мне. Лізі была дарослай прыгожай, як і маці яе, паненкай. Была яна ў шлюбнай сукенцы, у той самой, у якой вянчалася мая жонка. Лізі ўсміхалася, гаварыла нешта, але словы не даходзілі да мяне. Падышоўшы да мяне, яна працягнула мне руку. Рука яе была чорнай, абвугленай!.. Я ўскрыкнуў ад жаху і прачнуўся... Гэта была ноч, калі яны загінулі ад бомбы...

Такія ж бомбы кідаў і я. У польскіх і рускіх гарадах таксама ўміралі такія ж, як мая Лізі, дзеці. Іх бацькі, мабыць, таксама вавалі, як я. Як я забівалі, ранілі... Бо вайна — гэта не сустрэча за святочным сталом. Там кулі граюць пахавальныя матывы, а людзі танцуюць пад гэту музыку, а потым ідуць у зямлю. Часцей за ўсё ў чужую, далёкую.

Вы думаеце маці-немкі з радасцю адпраўлялі сыноў сваіх на смерць?.. З усмешкай і вясёлым крыкам абвяшчалі ўсім: «Слухайце, свята ў мяне сёння, самае вялікае, мой сын загінуў!.. Чуеце, як радасна б'ецца маё сэрца, якая я шчаслівая, што дачакалася гэтай хвіліны!..»??... О, што адчувала яна, маці, ведалі толькі падушка і непазбыўныя ночы... Ноч бачыла сапраўдны твар маці-немкі. Афіцыяльна яна маўчала, інакш было нельга, інакш не выпадала... Няўжо ж вы можаце не верыць, што і немцы многаму навучыліся?..

— Не відна гэтага.

— Прыедзьце да нас, цяпер ці за некалькі год, самі ўбачыце.

— Калі-небудзь можа і прыеду. Калі прызабудзецца, уляжацца... Цяпер — не змагу. Не абвінавачвайце мяне, інакш не магу; ні думаць, ні гаварыць. Я ведаю, трэба забыць некаторыя справы, але як гэта зрабіць?.. І вы не з радасцю ўспамінаеце свой палон, рускую зіму, рускі снег...

Давайце ляпей памаўчым, гэтак будзе ляпей, для нас абодвух...

Мы змоўклі, але заснуць ніяк не маглі; сон не ішоў, не з'яўляўся...

...Поезд набліжаўся да Мінска, і я пачаў збірацца. Немец ляжаў, не спаў, а калі я вярнуўся з умывальніка, ён адзяваўся.

— Куды вы? Да Масквы яшчэ далёка, гэта ж толькі Мінск! Яшчэ будзе Орша, Смаленск, Вязьма...

— Ведаю, але я хачу вас правясці.

— Не. Вы не пойдзеце, чуеце? Я не хачу!

— Пайду. Адзявайцеся, поезд ужо звальняе ход...

Мы адзеліся, я зняў чамаданы з полкі. Ён сказаў: — А чамаданы вазьму я.

— Так нельга!

— Так трэба. Чамаданы заўсёды нясе праважаючы; і ў вас, у Польшчы, здаецца, таксама такі звычай.

— Але...

— Не пярэчце. Вось і цягнік спыніўся, пара...

Калі мы выйшлі на перон, немец працягнуў мне руку. Я адчуў як яна дрыжэла.

— Ідзіце ў вагон. Холадна. І снег ідзе.

— Мяцеліца разгульваецца... Руская мяцеліца.

— Ну, бывайце тады, — сказаў я.

— Бывайце і вы. І прабачце. За ўсё... Будзеце ў Дрэздане — зайдзіце, вось адрас...

— Бывайце...

Я ўзяў чамаданы і пайшоў к выхаду, а ён усё стаяў і стаяў на пероне. Я азірнуўся, ён махаў мне рукой, у якой быў капялюш.

А наўкруг разгульвалася марозная, снежная зіма. Снег насіўся, распыльваўся, калоў у твар. Снег густы, снег лютаўскі, снег рускі.

---

[1]) Вы гаворыце па-нямецку?

[2]) Я траха ўжо магу гаварыць па-нямецку.

[3]) Прашу, сядайце ў «маёй хаце». Цягнік ужо рушыў.

[4]) Дзякуй. Я таксама ў «сваёй хаце».

[5]) Снег ідзе.

[6]) Так снег.

[7]) Рускі снег...

[8]) Прашу за стол.

[9]) О, дзякуй, я — у ложак (я спаць).

[10]) Не... Я... Не...

[11]) Гэта само сабой разумеецца.

# АСЕННІ РАНАК

Жылі сабе дзед з бабаю: ён, Рыгор, яна Каруся.

Рыгор прастыў у час капання бульбы. Уначы паліла яго гарачка.

— Дзе сын? Дзе мой сын!? — трызніў Рыгор. — Сынок... я ўсё табе... Халера ты. Не дам! Не дам падкідацца дабром... Прадам... прап'ю... спалю! Сад вырубаю!!!

— Хай дасць жыццё Беласток!.. Сынок. Пры памяці Рыгор маўчаў. Выў сабака. Месяц выскаліўся ў акне, бы злыдзень.

Каруся выйшла на ганак. Знізу, ад зямлі, пацягнула каплічным холадам. Вялікая Мядзведзіца сядала на загуменні. Сівеў прымаразак, а неба заплывала мацнеючай яснотаю.

— Пятая гадзіна, — падумала Каруся, дрыпаючы ў склеп па бульбу свінням, каб наставіць парнік. Заграбаючы ў кошык брудныя бульбіны, праклінала здухамэнтамі жыццё. Думала: дачка далёка, сын у Беластоку. У Карусі запякалася жальба да сына: яму была гаспадарка! Да дачкі нічога не мела... Дочкі ідуць туды, куды іх бяруць.

Каруся разагрэлася.

Хтосьці адчыніў дзверы да хлява. Каруся вылезла са склепа і паглядзела: у дзвярах стаяў Рыгор.

— Чаго цябе вынерла з ложка!.. — сакрыкала.

Рыгор не адварнуўся.

Каруся падыйшла да Рыгора, каб накрычаць на яго.

І замаўчала: ён плакаў.

Наўкола святлела раніца, збягаліся куры, бляялі авечкі, рыкала карова. Каруся павяла Рыгора ў хату. Паклала яго ў пасцель. Яна першы раз не пераймалася галасамі галоднай гаспадаркі, зацiхла ля Рыгоравай галавы, пагладзіла яго мокры лоб, як маці гладзіць сына. Яе вочы мілавалі Рыгора і па-за ім не бачылі ды не помнілі нічога!

Ні дачкі, ні сына...

**Сакрат Яновіч**

# Беластоцкія гарнякі

(Працяг са стар. 1)

вучацца, ды мастацкія ў іх здольнасці — вось як у Гацкевіча...

Мікалай Гацкевіч выводзіцца з вёскі Мельнік над Бугам у Сямяціцкім павеце. Адразу заяўляе:

— Бацька мой «федруе» крэйду, а я вугаль, значыць ён «белы», а я — «чорны».

Гарняком працуе ўжо 8 год. Таксама найперш вучыўся прафесіі ў прышахтавай прафесіянальнай школе. З яго дасканалы музыкант. Два гады таму назад наладзіў аматарскі музыкальна-песенны ансамбль «Космас». Апрача гэтага вучыцца ў тэхнікуме.

Сябры абодвух Мікалаяў — Сянкевіча і Гацкевіча — завуць іх паміж сабою «Мікі». Хопіць толькі сказаць гэтае пяшчотнае імя, а ўжо амаль усе рабочыя шахты ведаюць, пра каго ідзе гутарка.



Пётр Варанецкі (злева) і Лешэк Мірэк.



Анатоль Лагвіненка.



Мікалай Сянкевіч.

На другі дзень з таварышам Лешкам Міркам з'язджаем у шахту. Спускаемся на глыбіню 300 метраў. Ідзем вузкім калідорам, сярэдзінай якога імчацца вагоны з вугалем. Такія самыя, якія возіць наш зямляк Мікі Сянкевіч з Рыбакоў. Прайшоўшы каля двух кіламетраў, сустракаем першых гарнякоў.

— Ёсць хто з Беласточчыны? — пытае тав. Мірэк.

— Я з Беласточчыны! — адзываецца нехта з цёмнага нутра вугальнага калідора. Знаёмлюся: Анатоль Лагвіненка з Бельска. Шлях у шахту такі самы, як і ў іншых. Знаходзіцца тут ужо 4 гады.

Пасля кароткага адпачынку паглыбляемся ў бакавы калідор. Тут замест вагонікаў грахоча канвеер, які падае вугаль з месца яго дабычы.

— Зараз знаходзімся мы, — гаворыць сакратар Мірэк, — якраз пад цэнтрам горада Катовіцы.

Цяжка сабе ўявіць, што над тваёй галавой 350 метраў вышэй імчацца трамваі, аўтобусы і аўтамашыны, што пад хмары ўзвышаюцца 14-цаціпавярховыя жылыя і адміністрацыйныя гмахі. Вечарам над шахтай «Катовіцэ» пастаянна гарыць чырвоная пяцівугольная звязда. Гэта знак, што шахта выконвае план. Звязда не пагасае ад 1960 года. Прыемна падумаць, што гарыць яна дзякуючы таксама нашым, беластоцкім гарнякам, якім шлем сардэчныя прывітанні з нагоды «Барбуркі».

**Віктар Рудчык**
Фота аўтара

# Падзеі ў Стараберазове

(Працяг са стар. 1)

злотых. Паліцыя, асабліва конная, дапамагала ім у акцыі.

Дэлегаты з'езда, згуртаваўшыся, пачалі співаць «Ад веку мы спалі». Не маглі аднак закончыць, раздаліся першыя стогны раненых. Паслы звярнуліся з пратэстам да каменданта і старасты. Тыя аднак у адказ раскладалі бязрадна рукі.

Людзі пачалі ўцякаць заднім выхадам. Тут сустрэлі іх дубінамі паліцаі і п'яныя злачынцы. Многія параненыя і акрываўленыя дэлегаты схаваліся ў вясковых будынках. Горш было з тымі, хто пабег у поле: даганяла іх конная паліцыя і біла да непрытомнасці палкамі і шашкамі.

Старaберазоўскіх сялян не выпушчана з іх хатаў. Конная паліцыя, як звар'яцелая, пудзіла з аднаго канца ў другі і біла кожнага, каго сустрэла.



**Рыгор Янкоўскі**
Фота Ул. Паўлючук

Дасталася нават старасце і каменданту паліцыі. У той момант, калі прысутныя кінуліся ў заднія дзверы, камендант і староста спрабавалі выйсці галоўнымі дзвярыма. Камендант быў у цывільнай вопратцы і тэрарысты не распазнаўшы ўраднікаў пацягнулі іх некалькі разоў дубінкаю. Распазнала аднак хутка сваё начальства паліцыя і абараніла яго ад «баёўкі».

Я ішоў услед за камендантам і старастай, і таму ўдалося мне пазбегнуць пабояў. Жыў я насупраць дома, дзе адбываўся з'езд. Я забег дахаты, узяў адзнаку солтыса і пайшоў назад у дом Трашчоткі. Паказаўшы паліцыі адзнаку, я змог прабрацца ў хату. У сярэдзіне, быццам пасля землетрасення: вокны і дзверы паломаныя, печы разбітыя, падлога ўся ў крыві. Пад сцяною стаялі паслы — Валошын і Мятла. Галава, твар і вопратка — усё было адным клакам крыві. Яны папрасілі мяне, каб я даў ім падводу ў Гайнаўку. Камендант паліцыі запрапанаваў даць «эскорт».

— Не трэба нам разбойніцкага эскорту, — адказаў адзін з паслоў.

Пасля чатырох ці пяці дзён прыехаў ізноў у Старaберазова камендант і хіба з дзесятак паліцаяў. Паклікалі некалькі чалавек з вёскі, у тым ліку і мяне, каб падпісаць пратакол, у якім гаварылася, што 5 снежня 1926 года сяляне вёскі Старабеpазова напалі на дэлегатаў Грамады, пабілі іх і што паліцыя не змагла абараніць гэтых апошніх. Я сказаў, што не падпішу, бо гэта няпраўда. «Яшчэ, — кажу, — на аконных рамах ёсць сляды шабляў, якімі паліцыя разбівала дом Трашчоткі».

— Не падпішаш ты, падпішуць іншыя, — адказаў коратка камендант.

Неўзабаве ў буржуазным друку паявіліся крывадушныя інфармацыі аб разгроме старaберазоўцамі з'езда Грамады, а я быў арыштаваны і пасаджаны ў турму.

**Рыгор Янкоўскі**
Старабеpазова

# Спецыяльна аб Беларусі

Сорак шосты нумар «Пшыязні» спецыяльна прысвечаны жыццю і справам Беларусі. Беластачане мамантальна раскупілі гэты нумар, што сведчыць аб вялікай патрэбе шырокай інфармацыі наконт беларускага жыцця.

Каляровую вокладку «Пшыязні» аздабляе фота Зінаіды Бандарэнка, дыктара беларускай тэлевізіі. Нумар запоўнены рэпартажамі, артыкуламі, інфармацыямі аб Беларусі і з Беларусі. Публікуюцца ў натуральных колерах — беларускі дзяржаўны сцяг, герб, гімн.

Сярод журналісцкіх матэрыялаў асаблівай увагі заслугоўвае інтэрв'ю, праведзенае з Т. Кісялёвым, прэм'ерам Беларускага Савета Міністраў. Надрукавана таксама артыкул аб дружбе паміж беларускім і польскім народамі, напісаны вядомым беларускім паэтам Максімам Танкам, які з'яўляецца старшынёю Вярхоўнага Савета Беларусі. Артыкул Дзімітра Бугаёва, добра насычаны інфармацыямі аб беларускай літаратуры, быў бы зусім прыемны ў чытанні, калі б не дапушчаныя ў ім перакладчыкам «перайначэнні» імёнаў ды прозвішчаў многіх пісьменнікаў. Амаль сенсацыйна глядзіцца на фотарэпартаж з Мінскага аўтамабільнага завода, дзе выпускаюцца велізарныя грузавыя машыны-гіганты, здольныя да перавозу дзесяткаў тон грузу. Вышыня іх колаў амаль роўная росту чалавека. Шмат цікавага напісана аб беларускай кінематаграфіі, якая апошнім часам выходзіць на еўрапейскі рынак кінапракату. Зрэшты, задоўга тут вылічваць усё, што напісана аб беларускім жыцці. Сорак шосты нумар «Пшыязні», гэта малюткая энцыклапедыйка аб Беларусі. Вядома, не магло тут абыйсціся без надрукавання вядомай песні «Зорка Венера», якую апублікавана па-беларуску і па-польску. Пераклад на польскую мову «Зоркі Венеры» зроблены Ч. Тарчынскім.

«Пшыязнь» даволі папулярная на Беларусі, таму змешчана шмат пісем ад яе беларускіх чытачоў у Мінску, Баранавічах, Віцебску, Пінску, Гомелі, Магілёве.

Нашых чытачоў, а дакладней кажучы, чытачак, несумненна зацікавіла беларуская мода, прадстаўленая каляровымі фота на апошняй старонцы гэтага ілюстраванага часопіса.

Словам, моцна цешыць нас ініцыятыва рэдакцыі «Пшыязнь». С.Я.

# Куды яны прападаюць?

(Працяг са стар. 1)

У Новай Волі здзівіліся: — Што ён з месяца зваліўся?!

І махнулі рукою на такога кандыдата.

На курсы трактарыстаў ідуць, перад усім маладыя людзі, хлопцы яшчэ перад вайсковаю службаю. Ідуць вучыцца на гэтыя курсы, таму што не мелі магчымасці закончыць школы. Хочуць «зрабіць» прафесію, здабыць добрую працу, каб мець на чым будаваць сваё будучае жыццё. Курс трактарыстаў, гэта «прадшколе». Абы было за што зачапіцца.

Інж. Коваль з Ваяводскага Цэнтра сельскагаспадарчага навучання сцвердзіў, што на сто трактараў патрэбна навучыць, прынамсі, сто пяцьдзесят трактарыстаў. Аднак, практыка паказвае, што і трыста не было б замнога...

...Разумею аптымізм інж. Коваля: яго цэнтр праводзіць велізарную работу ў навучанні масы трактарыстаў. За навучальны год 1964/65 вывучана на трактарыстаў 1.329 асоб; цяпер вучыцца 1.316, а на наступны год плануецца прыняць далейшых 1.540 кандыдатаў. Дуброўскі, Сакольскі, Гайнаўскі, Бельскі паветы дадуць каля 320 кандыдатаў, а Беластоцкі павет — 160. Ёсць надзея, што хаця палова іх будзе працаваць трактарыстамі. Іншыя запішуцца потым на шафёрскія курсы, дзе атрымаюць права язды трэцяй катэгорыі і рушаць у гарады да працы ў транспарце, вечна галодным на шафёраў. Будуць яны шафёрамі, будуць мець: пастаянную штомесячную плату, дарэмных лекараў і лекі, вольны час і гарадскую пагулянку, восем гадзін працы і даходную «трафейную халтуру». Гэта не тое, што пыхцець трактарам да цямна ў полі ці пры цягавітых гаспадарскіх звозках...

У Беластоцкім павятовым аддзеле камунікацыі кінуліся мне ў вочы лічбы надта ж падобныя да сябе, можна сказаць, лічбы-блізняты. Вось яны:

— За 1965 год выдана тут 172 правы язды на трактары і 194 шафёрскія правы язды (апрача аматарскіх);

— за гэты год, да 16 лістапада, выдана 122 правы язды на трактары і 116 правоў язды шафёрскіх, прафесіянальных, трэцяй катэгорыі.

Братнія лічбы новых трактарыстаў і новых шафёраў валэндаюцца за сабою крок у крок і ў іншых паветах. Словам, не буду нудзіць лічбамі.

Не хочацца прызнаваць тую праўду, што цэлая таямніца пастаяннага недахвату трактарыстаў у тым, што быць трактарыстам, гэта значыць быць нічым. У гэтым месцы чую жалі былых трактарыстаў да прэзасаў, што не знаюцца яны на тэхніцы, часта камандуюць па-дурацку, не дбаюць аб размах працы і т.п. Але чую, адчуваю, што гаворка гэтака больш падобная да плёткі, хаця ёсць у тым, шчыра кажучы, даволі многа рацыі.

Беларускія сельскагаспадарчыя гурткі бедныя трактарамі. І па-мойму, трэба прызнаць рацыю тым, якія лічаць, што вучыць на трактарыстаў найляпей дарослых, жанатых гаспадароў, якія ўжо нікуды не збіраюцца ўцякаць з вёскі. На колькі гэта рацыя акажацца практычнай, пакажа час.

Прафесія трактарыста будзе ставацца раўнапраўнай толькі ва ўмовах канцэнтрацыі сельскагаспадарчай тэхнікі, ва ўмовах арганізацыі і мацавання міжгурткоўскіх базаў механізацыі, у якія кіруецца вялікую колькасць трактараў, будуецца рамонтныя варштаты, ствараюцца месцы пастаяннай працы. Працы, як летам, так і зімою. Такія базы з вялікімі даходамі і заробкамі дадуць сэнс заняцца прафесіяй трактарыста нават тым з трэцяй ці другою катэгорыяй права язды.

Трэба звясці да згоды паміж імкненнем чалавека да лепшага жыцця і сэнсам цяжкай гаспадарскай працы. Без гэтай згоды трактарысты будуць прападаць нам. (С.Я.)



Адступаць няма куды — ззаду Масква.

ЧВЭРЦЬ СТАГОДДЗЯ НАЗАД

# ПРАВАЛ АПЕРАЦЫІ „ТАЙФУН"

30 верасня 1941 года гітлераўскія войскі пачалі наступленне, мэта якога заключалася ў тым, каб разграміць савецкія арміі, якія абараняліся на далёкіх подступах да Масквы, а затым авалодаць савецкай сталіцай. Ажыццяўленне гэтай задумы ўскладалася на групу армій «Цэнтр» пад камандваннем фельдмаршала фон Бока. Яна аб'ядноўвала больш як мільён чалавек. У іх распараджэнні знаходзілася дзве тысячы танкаў, гэта значыць тры чвэрці ўсіх варожых танкаў, якія дзейнічалі тады на савецка-германскім фронце. Яны мелі таксама тысячу баявых самалётаў. У іх дывізіях была сканцэнтравана амаль палавіна артылерыі і мінамётаў, што былі ў дзеючай нямецкай арміі. Нідзе за ўсю вайну гітлераўцы не збіралі потым такую магутную групоўку войск. Гітлераўцы значна пераўзыходзілі савецкія сілы і ў баявой тэхніцы, і ў людзях. А на напрамках галоўнага ўдару гэта перавага была часам пяціразовай і нават сяміразовай. Трэба мець на ўвазе і тую акалічнасць, што большая частка савецкіх танкаў і самалётаў была ўстарэлых канструкцый, па сваіх баявых магчымасцях яны ўступалі гітлераўскім танкам і самалётам. Немцы мелі перавагу ў рухомасці войск (вялікі аўтатрактарны парк). Большасць жа савецкіх часцей і злучэнняў карысталіся коннай цягай. Сілы былі нязроўныя, і фронт наблізіўся да Масквы. Адлегласць да яе ад пярэдняга краю абароны не перавышала ў некаторых месцах 100 км. Над Масквой навісла смяртэльная небяспека. У другой палавіне лістапада разгарэліся жорсткія баі на подступах да Масквы. Контрнаступленне савецкіх войск, якое пачалося ў пачатку снежня, адкінула гітлераўцаў ад Масквы на 100—200 кіламетраў. Цяжкія няўдачы выклікалі крызіс у стане ворага. Упершыню за вайну нямецкая армія, якая знаходзілася ў зеніце сваёй баявой магутнасці, страціла ініцыятыву і вымушана была перайсці да абароны. Гітлер перамясціў усё вышэйшае камандванне. Былі адхілены ад пасады галоўнакамандуючы сухапутнымі войскамі Браўхіч, камандуючы групай армій «Цэнтр» фельдмаршал фон Бок і многія іншыя вышэйшыя начальнікі. Абставіны, якія спрыяльна скаліся, далі магчымасць савецкім войскам у студзені 1942 г. перайсці ў агульнае наступленне. Разгром немцаў пад Масквой стварыў пералом у ходзе другой сусветнай вайны, паклаў пачатак заваяванню перамогі над Германіяй. (рл)




ЛЕС ПАВЕШАНЫХ

Цікавы румынскі фільм, ваенная драма. Зроблены на канве сапраўднага здарэння аб салдату, які бачыў бяссэнсіцу вайны і нават у ёй не страціў пачуцця адказнасці за ўласныя чыны.
Узнагарода за найлепшую рэжысерыю на міжнародным фільмовым фестывалі (МФФ) у Кан за 1965 год. (вл)



# Традыцыі нашай адсталасці

Найбольш характэрнай рысай усходняй Беласточчыны ў часы прыгонніцтва была невялікая колькасць памешчыцкай уласнасці. Беларускія вёскі Беласточчыны ў большасці былі дзяржаўнымі (казённымі), уласнікамі іх была «казна», а не паасобныя памешчыкі. Такая сітуацыя ўзнікла ў нашых вёсках яшчэ ў XVI стагоддзі, калі ініцыятыўная каралева Бона імкнулася збудаваць трывалыя эканамічныя падставы панавання свайго мужа пачала збіраць у каралеўскіх руках вялікія абшары Падляшша, выкупоўваючы іх або адбіраючы ад прыватных уласнікаў. Ад таго часу нашыя вёскі былі ў большасці ўласнасцю польскіх каралёў, а пазней — царскай дзяржавы.

Паводле дадзеных царскай статыстыкі з пяцідзесятых гадоў мінулага стагоддзя працэнт казённых і памешчыцкіх сялян у паасобных уездах Гродзенскай губерні быў наступны

| | казённыя сяляне | памешчыцкія сяляне |
|---|---|---|
| Беластоцкі уезд | 21,5% | 40% |
| Сакольскі | 72,5% | 10,5% |
| Бельскі | 39% | 30% |

Прытым трэба адзначыць, што большасць памешчыцкіх вёсак знаходзілася ў заходніх, заселеных польскім насельніцтвам, частках уездаў, на тэрыторыі заселенай беларусамі колькасць іх была сапраўды невялікая.
Вядома, што прыгонніцкае ярмо найбольш лютым было ў прыватных панскіх маёмасцях; ва ўладаннях дзяржаўных прыгнёт сялян быў слабейшым. Таму можам сказаць, што нашым прадзедам пашанцавала. Мелі яны дачыненне больш за ўсё з рознага тыпу арандатарамі дзяржаўных уладанняў, чымсьці з сапраўднымі памешчыкамі-панамі.

Памылімся, аднак, ствараючы надта аптымістычныя ўяўленні аб жыцці прыгонніцкіх сялян-беларусаў. Дакучаў ім перад усім найбольшы іх вораг — голад. Прычынай яго была больш за ўсё адсталасць сельскагаспадарчай культуры нашага раёну. Трэба ведаць, што апошнія гады перад разняволеннем сялян і студзеньскім паўстаннем (1863 г.) знаменаваліся параўнальна значным прагрэсам у сельскай гаспадарцы цэнтральных і заходніх раёнаў Польшчы. Ліквідавалася трохпольную сістэму апрацоўкі зямлі, уводзілася пэўныя сельскагаспадарчыя машыны і новыя сельскагаспадарчыя культуры, серп масава падмяняўся касою. Усё гэта не датычыла аднак усходніх раёнаў сённяшняй Беласточчыны.

Аказваецца, адсталасць нашай сельскай гаспадаркі мае «глыбокія» і даўнія традыцыі.

Меркай адсталасці можа быць прадукцыйнасць збожжавых пасеваў. Так, напрыклад, паводле афіцыйных падлікаў у 1853-1857 гадах з кожнага пасеянага зерня атрымлівалася ў сярэднім з азімых пасеваў — 2 4/5 зярнят (у Варшаўскай губерні — 5 зярнят), у пасевах ярых — 2 3/5 зярнят (у Варшаўскай губерні — 4). Здараліся аднак гады, у час якіх у паасобных вёсках не атрымлівалася нават высеянага зерня.
Прычынай слабых ураджаяў было, апрача шэрагу іншых недахопаў, перад усім слабое ўгнаенне. Гэта звязана было з вельмі слабым развіццём жывёлагадоўлі.

Нічога тады дзіўнага, што крайняя нястача, галеча і голад былі пастаяннымі сябрамі нашых сялян. Вострыя, якія вынішчаў насельніцтва вёсак, голад атакаваў у прыгонніцкія часы беларускую вёску даслоўна што некалькі гадоў. Галоднымі на Гродзеншчыне былі між іншым гады: 1845, 1854, 1855. Аб спустошэннях, якія наводзілі тут гэтыя галадоўкі, могуць сведчыць статыстыкі смяротнасці. Пасля кожнага неўраджайнага лета смяротнасць насельніцтва катастрафальна павялічвалася, колькасць памерлых ставалася значна большай ад колькасці нараджэнняў, і лік насельніцтва рэзка змяншаўся. Так, напрыклад, у 1854 годзе ў цэлай Гродзенскай губерні ў сярэднім на кожных 1000 нараджэнняў было 1850 памерлых, у 1855 — 2230 памерлых, а ў 1856 — 1182 памерлых. Сярэдні ўзрост, пры якім наступала смерць жыхараў нашай вёскі, раўняўся 26 гадам, лік вясковага насельніцтва амаль не павялічваўся на працягу цэлых дзесяцігоддзяў, а былі нават шматгадовыя перыяды, у час якіх ён моцна змяншаўся. Не таму, што прадзеды нашыя прымянялі прынцыпы свядомага мацярынства. Дзяцей у сялянскіх сем'ях, як вядома, радзілася тады вельмі многа — толькі, на колькі здольна была радзіць іх жанчына. Колькасць гэтая не магла аднак папоўніць колькасці памерлых з прычыны недахопу найпрасцейшых сродкаў харчавання — хлеба і бульбы.

Ул. Паўлючук




**Цемра і дрэннае надвор'е дапамаглі Стэйнеке і Гардэну паспяхова высадзіцца на бераг і прайсці ў глыбіню польскай тэрыторыі. Але ўжо праз гадзіну дазор польскіх пагранічнікаў па слядах, што засталіся на мокрым пяску, устанавіў парушэнне граніцы двума невядомымі. Неадкладна была арганізавана пагоня, сабака напаў на след. Аднак пагоня не ўвянчалася поспехам — парушальнікі залівалі свае сляды нафтай. Яны спыніліся ў невысокім ляску, каб крышку аддыхацца. Навокал панавала непраглядная цемра. Стэйнеке, які ішоў уперадзе, дастаў пластыкавую карту, на якую былі нанесены нафасфарызаваныя дэталі тэрыторыі. Колькі ён ні спрабаваў адшукаць арыенціры, яму гэта не ўдалося.**

**— Пан маёр, — сказаў Стэйнеке. — мы цяпер павінны разыйсціся.**

**— Можа, пойдзем яшчэ крыху разам? — падумаўшы, сказаў Гардэн. — Удвух неяк весялей.**

**Стэйнеке павярнуўся да маёра.**

**— Вы мяне прасілі, каб я вас праводзіў, але цяпер мне ўжо нельга рызыкаваць. Мне загадана выканаць важнае заданне.**

**— Мне таксама загадана выканаць важнае заданне. Хто ведае, можа, яно важнейшае за ваша. Я прашу толькі, каб вы мяне праводзілі яшчэ, ну, скажам, да таго скрыжавання дарог, — паказаў маёр пальцам на карце. Стэйнеке паціснуў плячыма. Ён схаваў карту ў кішэню і, не гаворачы ні слова, пайшоў уперад.**

**Пачало віднець, паступова палепшылася бачнасць. Стэйнеке ліхаманкава абдумваў, якім чынам вызваліцца ад маёра, незразумелыя паводзіны якога зноў выклікалі ў яго падазрэнні. Ён адабраў у Гардэна прыбор, якім той распырскваў нафту, і загадаў яму ісці ўперад. А сам паклаў пісталет на грудзі, трымаючы палец на спуску. Гардэн недаверліва паглядзеў на яго.**

**— Мы пройдзем лішнія некалькі кіламетраў, — зазначыў ён няўпэўнена.**

**— О, зразумела, — ненатуральна рассмяяўся Стэйнеке. — Але мы засцеражом сабе шлях ад небяспекі, — дадаў ён з націскам.**

**— Да скрыжавання дарог засталося паўкіламетра. — Стэйнеке спыніўся і паглядзеў на маёра.**

**Гардэн падышоў бліжэй і кінуў позірк на карту.**

**— Вы пойдзеце цяпер управа лесам і за некалькі мінут будзеце на месцы.**

**— Я вам скажу праўду, — нечакана сказаў Гардэн, — не ведаю я гэтай мясцовасці. Я пайду з вамі, пакуль...**

**— Нікуды вы са мной не пойдзеце! Чуеце? — з абурэннем перапыніў Гардэна Стэйнеке.**

**— Чую, але я ўсё ж пайду, — адпарыраваў Гардэн, іранічна ўсміхаючыся. — Што вы на гэта скажаце?**

**— Нічога, — буркнуў Стэйнеке.**

**Гардэн не ўяўляў, якой небяспецы сябе падвяргае. Стэйнеке — прафесійны забойца, вымуштраваны ў спецыяльных дыверсійных часцях СС, ніколі не адчуваў дакораў сумлення, тым больш, калі справа датычыла яго асабіста. Моўчкі дайшлі яны да густа зарослага кустамі букавага стогадовага дрэва. Яны былі вымушаны цяпер прабірацца праз лес, поўны паваленых дрэў, выкарчаваных пнёў і здрадніцкіх ям. Стэйнеке азірнуўся. Гардэн спатыкнуўся і паваліўся б, калі б не абапёрся аб дрэва. Стэйнеке падышоў да яго. Твар маёра скрывіўся ад болю.**

**— Гэта, напэўна, вывіх. Дапамажыце мне, — папрасіў маёр.**

**Стэйнеке абняў маёра за плечы, радуючыся ў душы, што нарэшце ёсць прычына, каб яго тут пакінуць. Было вельмі малаверагодна, каб у такім становішчы, з цяжкім чамаданам на плячах, Гардэн мог працягваць ісці ў ранейшым тэмпе. Пасля ста метраў безнадзейнай спробы Стэйнеке спыніўся.**

**— Гэта не мае ніякага сэнсу, — сказаў ён Гардэну. — Пачакайце тут, прывяду якую-небудзь дапамогу.**

**Маёр стаяў, абапёршыся аб дрэва. На яго чырвоным, спацелым твары было пачуццё звярынага страху. Стэйнеке зрабіў некалькі крокаў уперад.**

**— Стаяць! — крыкнуў Гардэн, цэлячыся ў яго з пісталета.**

**— Як хочаце, — сказаў Стэйнеке, падыходзячы да маёра. — Я лічу, што няма іншага выйсця, — дадаў ён спачувальным тонам.**

**Спакой шпіёна ўвёў маёра ў зман. Ён апусціў зброю і нават пачаў прасіць прабачэння за недарэчную запальчывасць. Маёр даверліва абапёрся на плечы Стэйнеке, і яны зноў пайшлі разам.**

# ТРЫБУНА чытачоў




Прыпамінаем нашым чытачам пра неабходнасць аднавіць падпіску на 1967 год. Падпіску трэба афармляць у мясцовай пошце або ў пісьманосца, бо гэта дае магчымасць рэкламацыі ў выпадку недаручэння газеты.

Умовы падпіскі «Нівы» ў Польшчы:

**на месяц — 2,40 зл.**

**на квартал — 7,20 зл.**

**на паўгода — 14,40 зл.**

**на год — 28,80 зл.**

Не адкладайце справу падпіскі на апошнюю хвіліну. Аднаўляйце падпіску самі і заахвочвайце суседзяў, якія яшчэ не чытаюць «Нівы», выпісаць наш тыднёвік.

Прыпамінаем, што таксама можна выпісаць «Ніву» для сваякоў і знаёмых за граніцай. Гадавая падпіска «Нівы» з высылкай за мяжу каштуе 40,40 зл. Грошы трэба высылаць на адрас: Warszawa, ul. Wronia 23 BKWZ „Ruch", падаючы адрас таго, каму выпісваеце газету. Падпіска прымаецца да 10 снежня.

## Пётр Кацэйка

Пётр Кацэйка ўжо 12 год працуе рэферэнтам скупу збожжа ў Бельскім ГС-е. У мінулым годзе з яго ініцыятывы быў зроблены транспарцёр да перакідкі збожжа ў засекі. Сяляне з гэтага вельмі задаволены, таму што не патрабуюць насіць мяшкоў у засекі.

**П. Зінкевіч**, Бельск

**Стэйнеке непрыкметным рухам узяўся за ручку нажа, што вісеў ля пояса.**

**— Паспрабуйце самі ісці, — заклапочана оказаў Стэйнеке, калі яны пераходзілі невялікі пагорачак.**

**Гардэн стараўся ўтрымаць раўнавагу, але ледзь не ўпаў. Боль у назе даваў усё вастрэй сябе адчуваць.**

**— Не магу, — бездапаможна сказаў ён, гледзячы на Стэйнеке сваімі круглымі вачыма.**

**Стэйнеке дастаў нож і схаваў яго ў далоні.**

**— Вы і сапраўды не можаце? — спытаў ён глухім голасам.**

**— На жаль, — маёр нахіліўся, абмацваючы хворае месца.**

**— Ну, дык я вам дапамагу, — сказаў Стэйнеке. Раптоўным ударам ён усадзіў нож у шыю Гардэна і адскочыў убок.**

**— Здрада! — прахрыпеў Гардэн, спаўзаючы на зямлю. Апошнім намаганнем ён падняў пісталет і накіраваў яго ў грудзі забойцы.**

**— Ты змяя! — з нянавісцю вымавіў Гардэн і націснуў на курок. Кулі не папалі ў цэль. Праз мінуту пісталет выпаў з амярцвелых рук. Стэйнеке зірнуў на цела маёра, якое курчылася ў перадсмяротных пакутах.**

**— Гатовы, — падумаў ён. Стэйнеке павярнуў яго на бок, узяў чамадан маёра і неўзабаве знік у зарасніку.**

**(Працяг будзе)**

## Вулічнае святло

Грамадская рада ў Пасынках (Бельскі павет) у штодзённай працы кіруецца патрэбамі сваіх выбаршчыкаў. У мінулых гадах праведзена было вулічнае святло ў такіх вёсках як Пасынкі, Суботка, Кожына. У першым квартале наступнага года плануюць правесці вулічнае святло ў такіх вёсках: Белая, Катлы і Сакі. Стараннямі працаўнікоў грамадскай рады зроблена ўжо адпаведная дакументацыя, кошт якой пакрыла рада з грамадскага фонду. Кошт планаваных работ даволі вялікі, складае суму шасцідзесяці тысяч злотых. Для гэтага кожны гаспадар павінен унесці свой уклад. І варта. Святло будзе свяціць кожнаму жыхару вёскі. Яно вельмі патрэбнае. У Белай, напрыклад, пагражае на крутых паваротах небяспека для ўсіх падарожных.
Асенняе і вясенняе разводдзе з'яўляецца трагедыяй. Вуліцы поўныя балота, хоць ты вывозь за граніцу.

**К.С.**

## Залажылі громаадводы

У гэтым годзе сяляне масава закладаюць громаадводы ў Гайнаўскім павеце. Нядаўна на ўсіх будынках у грамадскай радзе Трасцянка заложаны громаадводы. Цікава толькі, чаму ў вёсцы Белкі прамінулі будынкі некаторых сялян і не залажылі громаадводаў? Няма громаадводаў на клуні Васіля Міхальчука, на хаце Сцяпана Лук'янюка. Гэтым сялянам проста як спецыяльна не захацелі залажыць. Не паслухалі нават іх просьбы ў гэтай справе. Прамінулі будынкі таксама Сцяпана Пучкі і Івана Пучкі, якія жывуць у Беластоку. У сувязі з такой самаволяй работнікаў, якія закладалі громаадводы, пагроза пажару ад маланкі далей актуальная, таму што ўспомненыя будынкі незабяспечаны. І яны могуць быць прычынаю пажару ўсяе вёскі.

**Ярош**
Белкі




Дарагое Сэрцайка!

Чытаючы твае парады я падумала, мо і мне зможаш даць адказ, хоць зусім у іншай справе, чым пішуць дзяўчаты і хлопцы. Маю ўжо 17 год. Жыву на вёсцы. Пазнаёмілася я з хлопцам К. Ён мне вельмі спадабаўся. Ён з горада. І калі я ездзіла ў горад, заўсёды з ім спатыкалася. Але вось што выйшла пры апошняй сустрэчы. Пры нашым знаёмстве я падала яму іншае імя, бо маё вельмі брыдкае. Зрэшты, я ніколі не гавару хлопцу свайго сапраўднага імя, бо саромеюся. І вось у час апошняй сустрэчы К. назваў маё сапраўднае імя. Я пыталася, адкуль ён ведае, але не прызнаўся. Тады я сказала яму, што калі аб гэтым не хоча мне сказаць, дык я ўжо з ім больш не сустрэнуся. Ён і на гэты раз быў спакойны, толькі на мяне ўглядаўся і ўсміхаўся. Сказаў, што ён расчараваўся ў адносінах да мяне. Пагаворыць са мною іншым разам. Што я павінна яму сказаць пры наступным спатканні? Ці магу я змяніць імя, ці гэта зусім немажліва?

Дзяўчына з «Бору»

У гэтай справе звярнуліся мы да юрыста, які адказвае:

Змена імя магчыма, калі ідуць за гэтым важныя матывы, напрыклад, імя смешнае або абразлівае. Не ведаючы. вашага імя трудна ацаніць, ці ваша імя з'яўляецца такім, што дае асновы старацца аб яго змене. Аб змене імя вырашае Прэзідыум Ваяводскай рады нарадовай, аднак прашэнне ў гэтай справе трэба складаць у Прэзідыум Павятовай рады нарадовай. (Ustawa z 15.XI. 1956 r. o zmianie imion i nazwisk).

Што датычыць твайго спаткання. Калі К. кахае цябе, напэўна ніколі не пакіне з-за такой благой прычыны.

**Сэрцайка**



## Гадоўля курэй

Аляксандр Артысевіч з Бельска вядомы з гадоўлі курэй. У 1958 годзе залажыў ён ферму курэй. У першым годзе гадаваў 200 штук. З кожным годам ферму сваю павялічваў. Зараз гадуе 400 штук курэй. На працягу 8-мі год Аляксандр Артысевіч прадаў дзяржаве 432 тысячы яек.
На здымку: Аляксандр Артысевіч на сваёй ферме.

Тэкст і фота **П. Зінкевіч**, Бельск

## У рэдакцыю

У сувязі з тым, што ў перадапошнім сказе артыкула аб «Нашай Ніве» ад 13.XI.1966 года выступілі дзве памылкі, прашу змяніць адпаведныя месцы гэтага сказа: не «...Аўсяннікоў, Кулікоўскі», а «...Аўсяніка-Кулікоўскі», не «...якіх павінна маніць аб'ектыўная праўда», а «...якіх павінна вабіць аб'ектыўная праўда».

Аўтар

## ...Як снапы

Закараніўся ў нашых вёсках, у тым ліку і ў Плёсках, дурны звычай. Пасля заканчэння малацьбы кожны гаспадар частуе ўсіх тых, хто дапамагаў яму ў гэтай цяжкай працы. Як правіла, пачастунак заўсёды з водкаю. За дзень малацільны агрэгат змалоціць збожжа некалькім гаспадарам. І так, пасля другога пачастунку малацільшчыкі такія п'яныя, што ў час малацьбы ўжо ў трэцяга гаспадара могуць трапіць у машыну замест снапоў.
У чацвёртага гаспадара малаціць ужо ніхто не здольны. Пакуль што абыходзіцца без няшчасных выпадкаў. Але няма ніякай гарантыі, што заўсёды так будзе, што замест снапка чалавек трапіць у машыну.

Л. Л.
Плёскі

## Па-новаму ў 1967 г.

У час выбараў у Сейм і рады нарадовыя жыхары падпушчанскіх вёсак — Пяскаў, Забагоння, Доўгага Броду і Малых Пасечнікаў (Гайнаўскі павет) дамагаліся электрыфікацыі. У гэтым годзе пачалася рэалізацыя гэтых пастулатаў. Летам яшчэ былі прывезены слупы. Нядаўна сяляне гэтых вёсак развязлі іх і закапалі ў вызначаныя месцы. Праводзяцца ўжо абсталяванні правадоў у будынках. І калі споўняцца словы кіраўніка гэтай «электрычнай» будовы, дык новы год спаткаем мы з увядзеннем электрычнасці ў хаты. Гэта будзе для нас падвойнай урачыстасцю.

Солтыс з вёскі Пяскі
**Дзімітры Мікуліч**

# ЦЭНЫ

Ваяводская камісія цэн пастаянна сочыць за цэнамі на кірмашах, дзе не абавязваюць дзяржаўныя цэннікі. Яе працаўнікі ў мінулым тыдні (у чацвер — у Беластоку і Бельску, а ў сераду ў Гайнаўцы) аднатавалі наступныя цэны (ў злотых):

| прадукт | мера | Беласток | Бельск | Гайнаўка |
|---|---|---|---|---|
| жыта | цэнт. | 350 | — | 330 |
| пшаніца | цэнт. | 500 | — | 450 |
| яйкі | 1 шт. | 2,50 | 2,25 | 2,25 |
| масла | кг | 60 | 55 | 60 |
| ялавічына | кг | 34 | — | 25 |
| свініна | кг | 36 | — | 33 |
| сала | кг | 33 | — | 33 |
| бульба | цэнт. | 100 | — | 100 |
| цыбуля | кг | 4,50 | 5,00 | 5,00 |
| капуста | кг | 2 | 1 | 1 |
| морква | кг | 2 | 2 | 2 |
| буракі | кг | 2,50 | 2 | 2 |

**Ужо хутка!**

Вялікі чытальніцкі конкурс

# КІНО

**Праграма на 6—11.XII.1966 г.**

**ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ**

**Белавежа**

„Strachy zamku Spessart" (NRF) 6—7. „Alibi nie wystarczy" (czeski), 8—9. „Okno na Lunapark" (włoski), 10—11.

**Кляшчэлі**

„Tajemnica szyfru" (rumuński), 6—7. „Dzielnica szczęścia" (rumuński), 8—9. „Miłość blondynki" (jugosł.), 10—11.

**Дубіны**

„Obok prawdy" (radz.), „Podróż nie z tej ziemi" (jugosł.), 10 — 11.

**Нарва**

„Kanciarze i spółka akcyjna" (angl.), „Dworek 4-ech dziewcząt" (węgierski), 7—11.

**Нараўка**

„Noc przedślubna" (czeski), „12 mil. Holendrów" (holenderski), 7—11.

**Чыжы**

„Yanco" (meksykański), „Niedziela sprawiedliwości" (polski), 7—11.

**Дубічы Царкоўныя**

„Mam 20 lat" (polski), „Kiermasz" (NRF), 7—11.

**БЕЛЬСКІ ПАВЕТ**

**Боцькі**

„Miłość jednej nocy" (rumuński), „Dylemat" (duński), 7—11.

**Орля**

„Pociąg na tyły" (radz.), „Macario" (meksykański), 7—11.

**Райск**

„Dwie noce jednego dnia" (jugosł.), „Giuseppe w Warszawie" (polski), 7—11.

**БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ**

**Гарадок**

„Czterdzieści dni" (jugosł.), „Czarny monokl" (franc.), 7—11.

**Міхалова**

„Wehikuł czasu" (USA), 6—7. „Sprawa Barnaby Kosa" (czeski), 8—9, „Kochankowie z Marony" (polski), 10—11.

**СЯМЯЦІЦКІ ПАВЕТ**

**Нурэц**

„Ballada huzarska" (radz.), 6—7. „Niewysłany list" (radz.), 8—9. „Bandyci z Orgosolo" (jugosłowiański).

**Мілейчыцы**

„Królewskie dzieci" (NRD), 6—7. „Hamida" (NRD), 8—9. „Koniec nocy" (polski), 10—11.

**САКОЛЬСКІ ПАВЕТ**

**Крынкі**

„Jak się młody Noszty żenił" (węgierski), 6 — 7. „Kwiecień" (polski), 8—9. „Pieczone gołąbki" (polski), 10—11.

**Шудзялава**

„Mam tu swój dom" (polski), „Kto jest bez winy" (polski), 7 — 11.

**Сідра**

„Bajka o mrozie czarodzieju" (radz.), „Porucznik Marynin" (radz.), 7 — 11.

**ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ**

**Новы Двор**

„Czarne skrzydła" (polski), „Kapral i inni" (węgierski), 10 — 11.

**Ліпск**

„Jo—jo" (franc.), „Obca krew" (radz.), 10 — 11.

**НІВА**

Adres redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1. Telefony: red. naczelny 2-10-33, centrala 2-32-41 do 45. Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2,40 zł, kwartalnie — 7,20 zł, półrocznie — 14.40 zł, rocznie — 28,80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch" Nr 102-7-161 NBP Białystok I Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma. Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa, ul. Wronia 23. Nr konta PKO I-6-100024. Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem CHZ „Ars Polona" Warszawa, Krakowskie Przedmieście 7. Obowiązuje przedpłata na konto NBP ;Warszawa 2-6-51. Prenumerata roczna wraz z przesyłką zwykłą wynosi 4,70 $ w Europie, 5 $ — w USA.

Nakład 6.998 Błtk. D-2

# КАСМІЧНЫ ШЧУР

У Катлах на 13 канале вельмі актыўна пачала працаваць пантафлёвая станцыя вясковага тэлебачання. Па ўсёй вёсцы нёсся трывожны сігнал: — SOS!.. SOS!.. SOS!... На малых і вялікіх экранах вясковых тэлевізараў паказваўся пералеканы дыктар і расстроеным голасам безупынна перадаваў трывожныя радыёграмы: — SOS!.. SOS!.. SOS!... Людзі, ратуйце дабро! У нашай вёсцы з'явіліся дагэтуль нябачаныя, гігантычныя шчуры. Дасталіся яны да нас, відавочна, проста з космасу. Закліматызаваліся ў нашых склепах і кладоўках. Ім не па чым бетановыя сцены і жалезныя краты. Касмічныя шчуры маюць такія вострыя зубы, што перагрызаюць жалезныя краты, крышаць як скурку хлеба — цвёрды бетон і глытаюць, разам са шклянымі слоікамі, закансерванае мяса... SOS!.. SOS!.. SOS!.. Людзі, ратуйце сваё дабро!

Пасля захаду сонца не толькі дзеці, але і старыя бабы пачалі баяцца выходзіць на двор. Ды і не адзін з мужчын, пакідаючы хату, хаваў пад палою сякеру. Навумчык Валодзька да таго пераняўся касмічнымі шчурамі, што на свой склеп павесіў аж тры новыя замкі. Але праз пару дзён, ноччу, жонка яго куксанула ў бок: — Валодзька, уставай, мне здаецца, што ў нас нешта пад акном чарапаецца.

Валодзька падняў галаву, навастрыў вушы, паслухаў. — Не, табе хіба здалося, — сказаў і, адвярнуўшыся да сцяны, зноў захроп на цэлую хату.

Пачалі спяваць другія пеўні. Раптам прарэзлівы крык паставіў Навумчыкаў на ногі. Нехта пад самым акном крычаў: — Ой, людкове, змілуйцеся! Ратунку!

Валодзька схапіў сякеру і адчыніў акно. Пад хатаю, у фундаменце, у акенку, якое вяло ў склеп, убачыў плечы, галаву і рукі. Толькі палавіна чалавека! Гэта ён прасіў аб ратунак. «Пэўна касмічныя шчуры яго туды ўцягнулі», — бліснула ў Валодзькінай галаве думка. Схапіў з прышапка ключы і кінуўся адмыкаць патройныя замкі. З вялікага хвалявання доўга не мог падабраць уласцівыя ключы. Нарэшце паадмыкаў замкі, уключыў святло і асцярожна заглянуў у сярэдзіну склепа. Убачыў другую частку чалавека. У маленькім, цесным акенцы брэнталіся ў паветры толькі ногі і задняя частка цела. А шчуроў ні следу. Навумчык выбег на двор. Каля хаты сабраліся ўжо суседзі. Усе думалі, што рабіць. А чалавек, якога палавіна выглядала з фундамента, прасіў: — Ой, добрыя людзі, ратуйце! Злітуйцеся!

— А чаго цябе сюды ўнясло? — спытаў абураны Навумчык?

— Даруйце мне! Больш не буду!

Даравалі. Выцягнулі.

Злітавалася над Радзіванюком Міхасём і бельская міліцыя. Ад таго часу перасталі ў Катлах страшыць касмічныя шчуры.

Цёта Мальвіна

# НІЎКА

## АПРАЎДАННЕ ХАБАРНІКА

*Хабарнікам тут без падстаў*
*Яго мы назвалі:*
*Ён хабар і праўда не браў...*
*Бо не давалі.*

Г. Кляўко

### НА СУДЗЕ

Справа была да вайны. Лысы суддзя дапытвае селяніна:

— Чаму ты не заплаціў падатак?

— Нічога не вырасла, паночку, — адказаў селянін, — зямля пустая!

Суддзя паказаў пальцам на зямлю і дадаў:

— Калі б ты, гультай, захацеў, дык і на пустой зямлі вырасла б што-небудзь!

Пакрыўджаны селянін паказаў пальцам на лысіну суддзі і запытаў:

— А хіба на тваёй галаве, паночку, што-кольвечы расце, калі яна зусім пустая?

### НЕ МАЮЦЬ СУМЛЕННЯ

— Да чаго ж гэтыя спекулянты не маюць сумлення. Гатовы тры скуры здзерці з чалавека!.. — гаварыў Кандрат, разглядаючы світэр, які купіў на кірмашы.

— Ды навошта ж ты ў іх купляў?

— Як навошта! Дык мне ж суседзі за гэта тройчы больш дадуць.

### НА БАЗЕ

Сустрэліся кум з кумам.

— Дзе быў?

— На базе. Прасіў цэменту.

— І што сказалі?

— Цэменту няма, бяры шыфер.

— І я ж там быў! Прасіў шыферу!

— Ну і што? Атрымаў?

— Сказалі: шыферу няма, а восьцэменту колькі хочаш бяры!

### ХВАЛЬКО

Паляўнічы, сустрэўшыся з рыбаком, пачаў яму расхвальваць сваю стрэльбу.

— За кіламетр у зайца цаляе, — кажа ён, — а дзіка аднойчы за паўтара кіламетра ўлажыў.

Зрабіўшы выгляд, быццам ён верыць гэтай бязглуздзіцы, рыбак у сваю чаргу пачаў выхваляцца:

— А я ўчора вось гэтай вудай злавіў карася ў метр даўжынёю.

— Ды што ты? Гэта не можа быць, — усумніўся паляўнічы.

— Бач, які ты, — рассмяяўся рыбак, — я табе на цэлы кіламетр паверыў, а ты мне і на метр не хочаш верыць.

### СУР'ЁЗНАЯ ПРЫЧЫНА

Студэнтка прыйшла складаць экзамен, калі выкладчык збіраўся ўжо ісці.

— Выбачайце, — сказаў ён, — мяне тэрмінова выклікаюць. Прыходзьце заўтра а дзевятай.

У адказ пачулася хліпанне.

— Што з вамі? — здзівіўся выкладчык.

— Я вельмі прашу паслухаць мяне сёння, — маліла студэнтка.

— Чаму?

— Ды я баюся, што да заўтра забуду тое, што вывучыла...

### ВЫСВЕТЛІЎ

— Мама, чаму наш пакой не круглы? — пытае сын.

— А навошта табе гэта?

— Тады б ты не магла крыкнуць: ідзі ў кут.

### ТУРБОТА

Вечарам, седзячы каля кастра, дружыновы расказвае:

— Ведаеце, рабяты! Месяц, на самай справе, вельмі вялікі. На ім маглі б змясціцца мільёны людзей...

— А куды ж дзенуцца людзі, калі Месяц стане маладзіковым? — перапыніў яго адзін хлопчык.



Усё людское нам не чужое

### НА РЫНГУ

— Чаму гэта баксёр падае на памост ярчэ да ўдару праціўніка?

— Ён прытрымліваецца старога правіла: ляжачага не б'юць.

### ПАСТАНОВА ГУЛЬТАЁЎ

— Ой, як цяжка жыць на свеце гультаям, — гаварылі на сходзе гультаі і аднадушна пастанавілі:

«Цяжка жыць без работы, але ж мы цяжкасцей не баімся!».



Без слоў.



Па просьбе А. Б. з К., Валі Паўлючук з Дыдулёў і Ніны Філімонюк з Падбеля, С. Л. і О. Е. з Беластока, Кіры Мінюк з Бельска, Васіля Таронта з Шэрняў, Кацярыны Мірон з Тжцянага Старога, Міры Сяржан, Крысі Бяленя і Яўгеніі Пузыраў з Гарадка і дзяўчат з Шымак, змяшчаем песню п.з.

## SKANDAL W RODZINIE

Na Trynidat nad morzem domek był,
a w domku tym ród dobry sobie żył.
Była matka, ojciec i dorosły syn,
Czterdziestkę on miał, lecz kawalerem był.

Pewnego dnia wreszcie zakochał się,
wyznaje ojcu, że się żenić chce.
Ach, synu mój, też muszę wyznać Ci, że siostrą twoją jest,
O czym nie wiedział nikt.

Refren

Och, tato, co za pech
dzisiaj spotyka mnie.
Och, tato, co za skandal
gdy mama dowie się.

Po latach dwóch do ojca przyszedł znów,
by zdradzić tajemnicę swoich słów.
Lecz gdy o sąsiadce zaczął mówić mu,
To ojciec z wrażenia rzekł mu resztką słów.

Ach, synu mój znów muszę wyznać Ci
To siostra twoja jest
O czym nie wiedział nikt.

Ref.: Och, tato, itd.

Po sześciu latach wraca znowu syn,
Czy tato wie o wydarzeniu mym,
Na plantacji do pracy przyjęto dziś,
48 pięknych dziewcząt z drugiej wsi.

Ach, synu mój, jakże znów przykro mi,
To też twe siostry są
O czym nie wiedział nikt.

Ref.: Och, tato, itd.

Tym razem syn tak zdenerwował się,
że matce wszystko opowiedział wnet.
Lecz na te słowa, matka wpada w gniew,
Nie przejmuj się, mój synu, prawda inna jest.
By Cię ucieszyć o twym ojcu powiem Ci,
To nie twój ojciec jest, o czym nie wiedział nikt.

Ref.: Och, mamo, co za szczęście dziś
spotyka mnie.
Och, mamo, co za skandal,
gdy tato dowie się.

## АФАРЫЗМЫ ЯСЯ АПАЛОНІКА

Сумленнага чалавека можна запырскаць балотам, але ніякім брудам нельга замазаць чыстага сумлення.

*

Каму праеліся булкі, сам не ведае, што яму бы і таму пачынае падгрызаць людзей.

*

Памятайце, што з маленькага прышчыка робіцца вялікі нарыў.

*

Часам жыццё ставіць перад намі пытанні, на якія трэба цэлымі гадамі чакаць адказу.

*

Хто хоча пераскочыць сябе, вельмі лёгка можа згубіць ногі.

# КУРЁЗЫ



### Вопытны акуліст

Доктар Стэфен Грыдэр, акуліст з Філадэльфіі (ЗША), прыдумаў новы спосаб выяўлення вастрыні зроку ў сваіх пацыентаў. Замест звычайных нудных радоў літар і лічбаў ён прапануе мужчынам глядзець на фатаграфіі кіназорак. А зрок жанчын вызначае карцінкамі з модных журналаў. На думку доктара, такі спосаб дае больш праўдзівую карціну вастрыні зроку кліента.

### Барацьба на роўных

Гандляр Арчыбальд Медзіс, з Вініпега (Канада), не разгубіўся, застаўшы ў сваім магазіне грабежніка. Ён схапіў забаўкавы пісталет сына, і... зладзей падняў рукі. Калі паліцыя абшукала бандыта, выявілася, што і ён быў узброены забаўкавым пісталетам.

### Умова

Як вядома, Эрнест Хэмінгуэй быў заўзятым паляўнічым. Аднойчы, калі ён расказваў аб сваіх паляўнічых прыгодах у Афрыцы, адзін з слухачоў спытаў яго, ці праўда, што ў джунглях ніводзін звер не робіць шкоды чалавеку, калі той нясе ў руцэ запалены факел.

— Гэта залежыць ад таго, — адказаў пісьменнік, — з якой хуткасцю ён гэты факел нясе.



Чужое шчасце заўсёды большае. Гора ж, наадварот, меншае.